Przesyłka opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару **10** гр.

# БЕЛАРУСЬ ПРАЦЫ

Орган Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

№ 4 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Баровая 7-а, 2 | ВІЛЬНЯ, 28-га красавіка 1934 г. | Выходзіць непэрыёдычна | ГОД I

## Выжануць чырвонамаскоўскіх агентаў з беларускае вёскі!

У папярэдніх нумарох нашае часопісі была выказана намі патрэба неадкладнае барацьбы з нацыянальна-культурнай цемрай беларускай вёскі. Тады-ж мы сьцьвердзілі і тое, што пазытыўнае вырашэньне гэнае барацьбы зьяўляецца толькі першым і канечным варункам нашага аканчальнага нацыянальна-культурнага і сацыяльнага вызваленьня. Чырвонамаскоўскія агенты, прапаведуючы нібы вызваленьне Беларусі, накідаюць нашай вёсцы перакананьне, што барацьба з нацыянальна-культурнай цемрай зьяўляецца для справы нашага вызваленьня актам нязістотным і другарадным. Дзеля здабыцьця сапраўднага вызваленьня, па іх думцы, трэба ўсе сілы накіраваць выключна на барацьбу з капіталістычным строем ды сацыяльным вызыскам беларускае працоўнае масы. Прапаведываньне беларускага вызваленьня і барацьбы з капіталістычным строем ды вызыскам і адначаснае нэгаваньне патрэбы барацьбы з цемрай, як зароўна і ўся дагэтулішняя чырвонамаскоўская дзейнасьць у Заходн. Беларусі,—сьведчыць толькі аб тым, што чырвоная Масква, змагаючыся быццам за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне Беларусі, у сапраўднасьці вядзе змаганьне з нацыянальна-культурным і сацыяльным вызваленьнем Беларусі. Зразумець ўсё гэта даволі лёгка, хопіць толькі крыху бліжэй прыглядзіцца падставам капіталізму і спосабам барацьбы з імі, а таксама крыху бліжэй пазнаць сапраўдны воблік чырвонамаскоўскае палітыкі ў адносінах да беларусаў.

Бязумоўна, капіталістычна-імпэрыялістычны строй і вызыск зьяўляюцца надзвычай важкімі перашкодамі да беларускага вызваленьня. Справа ў тым, што кожная капіталістычна-імпэрыялістычная сыстэма рашуча супрацьстаўляецца нацыянальна-культурнаму і сацыяльнаму вызваленьню тых паняволеных народаў, якія зьяўляюцца аб'ектам капіталістычна-калянізацыйнага вызыску і эксплёатацыі. Калі-ж мы прыгледзімся да тых зрубаў, на якіх капіталізм абапірае сваё панаваньне, то пабачым, што такімі зрубамі зьяўляюцца нацыянальная ды культурная цемра эксплёатаваных і дыктатура эксплёататараў. Можна зусім наглядна сьцьвердзіць, што капіталізм успомненую цемру падтрымлівае ў масах спосабам папросту штучным, бо-ж толькі цёмная і безнацыянальная маса, нясьведамая сваіх правоў і няўмеючая гэтыя правы належна бараніць перад гвалтамі капіталізму, якраз і зьяўляецца найдагаднейшым аб'ектам безнаказнага вызыску і гвалтаў з боку дыктатараў. З вышэй сказанага бачым, што, каб змагаць капіталістычна - імпэрыялістычны вызыск і эксплёатацыю, трэба павесьці барацьбу не з абстракцыйным паняцьцем — „капіталістычны строй“, але з рэальнымі сіламі яго апірышча: з нацыянальнай і культурнай цемрай эксплёатаваных і затым з самой дыктатурай эксплёататараў. Сакрушальны ўдар па гэных зрубах капіталізму аўтаматычна зломіць і сам капіталізм і яго сыстэму вызыску.

Вось-жа, гаворачы й аб беларускім вызваленьні, трэба сьцьвердзіць, што нават калі яно мае накіравацца на шлях барацьбы з капіталістычным строем і сацыяльным вызыскам, як гэта прапаведаюць чырвонамаскоўскія агенты, то ўсёроўна і ў гэтым выпадку, што відаць з вышэйсказанага, працэс нашага вызваленьня павінен распачацца барацьбой з нацыянальна-культурнай цемрай. Справу гэнае барацьбы ніякім чынам нэгаваць ці ўдругарадніваць, як робяць гэта чырвонамаскоўскія агенты, ня можна. Беларускі селянін павінен ня толькі дасканальна чуць і ведаць, што ён беларус, а знача мае права ў сваёй вольнай і самастойнай дзяржаве быць незалежным і адзіным гаспадаром беларускіх зямель, які не патрабуе сваім мазалём карміць ніколі ненасытнага эксплёататара чужынца,— вось-жа, наш селянін ня толькі павінен ведаць аб гэтым, але мусіць быць асьвечаным культурна, каб за ўсё гэта ўмець пераможна змагацца, каб умець сакрушальна супрацьстаўляцца капіталістычна - імпэрыялістычнаму вызыску, каб затым умець выступіць у пераможны бой з дыктатурай эксплёататараў і каб, урэшце, мець магчымасьць прыняць дзейны ўдзел у пабудове сацыялістычнага строю вольнае Беларусі.

Слушнасьць сказанага намі вышэй зьяўляецца больш, чым відавочнай. Канечнасьць барацьбы з нацыянальна-культурнай цемрай зьяўляецца справай неабходнай ня толькі з увагі на нацыянальнае вызваленьне, але і з увагі на вызваленьне з ціскоў вызыску капіталістычна·імпэрыялістычнага строю. Тым ня менш, чырвонамаскоўскія агенты сваёй агітацыяй і дзейнасьцю ўспомненай барацьбе з нацыянальна-культурнай цемрай рашуча супрацьстаўляюцца. Каб зразумець, дзеля чаго яны гэта робяць і якое „вызваленьне“ нам гатуе чырвоная Масква, трэба, як мы ўжо і вышэй сказалі, пазнаць сапраўдны воблік чырвонае палітыкі ў адносінах да беларусаў.

Найвялікшым ворагам беларускага нацыянальна-культурнага і сацыяльнага вызваленьня заўсёды быў і будзе маскаль. Незалежна ад таго, ці гэта будзе белы манархіст ці чырвоны камуніст, маскаль заўсёды астанецца маскалём, які ніколі не пагодзіцца, каб Беларусь была самастойнай краінай. Праўда, чырвоная Масква на сваім сьцягу выпісала прыгожыя поклічы інтэрнацыянальнае барацьбы за вызваленьне і за сацыялістычны строй жыцьця ўсіх народаў. Аднак, у адносінах да беларусаў чырвоная Масква пад гэтым сьцягам вядзе ганебна-здрадніцкую барацьбу ў імя маскоўскага дзікага імпэрыялізму. Усё гэнае дзікунства маскоўскае балюча сказалася на Беларусі Усходняй і Заходняй. Ад тае хвіліны, як чырвоная Масква гвалтам паняволіла Усх. Беларусь, гэная апошняя стала сьцякае крывёй. Тыя, што яшчэ так нядаўна змаглі белацарскае капіталістычнае панаваньне, пачалі адразу-ж і самі, толькі з яшчэ вялікшай жорскасьцю, тасаваць калянізацыйна-капіталістычны вызыск Беларусі. Гвалтам вывозілася і вывозіцца з Усходняй Беларусі ня толькі надпрадукцыя вытворчасьці, але і блізу 75 прац. прадукцыі, пакінутай насельніцтву на ўласнае спажыцьцё. Бязумоўна, што супроць гэнага дзікунства людзі, гнаныя інстынктам самазахаваньня, мусяць запратэставаць. У вадказ на гэта чырвонамаскоўскія сатрапы „непакорных” перастрэліваюць тысячамі, а дзесяткі тысяч вынішчываюць штучнымі галадоўкамі, высылаюць у пеклішча Саловак або у цэнтральную Маскоўшчыну, а на землях „выбыўшых“ твораць акругі „велікорускія”, жыдоўскія і польскія. Праяў беларуска-нацыянальнае сьведамасьці караўся і караецца з яшчэ вялікшым дзікунствам. Праўда, гэны процібеларускі наступ Масква прыкрывае зычнымі выкрыкамі аб сталай разбудове беларускае культуры і гаспадаркі, аб тысячах школ, фабрык, трактараў і г. д. Аднак, калі прымем пад увагу, што ўспомненыя тысячы школ у добрых 50—60 працэнтаў зьяўляюцца даслоўна толькі пустой фікцыяй і што да існуючых школаў маюць доступ толькі маскалі, палякі і жыды, а ў найлепшым выпадку запраданцы чырвона-маскоўскага дзікунства, што, урэшце, ўвесь цьвет беларускае навукі штучна вынішчаны, што, падобна, створаныя тысячы фабрык служаць толькі дзеля больш паўнейшага вызыску і эксплёатацыі Беларусі і яе насельніцтва—то стане нам ясным сапраўдны воблік „сацыялістычнае“ гаспадаркі чырвонамаскоўскае імпэрыялістычнае процьмы. Зразумела гэта і ўсё (даслоўна!) беларускае насельніцтва Усх. Беларусі. Тысячы беларускіх камуністаў выкінуты з КП(б)Б і на іх мейсца ўведзена папрывожаных з Маскоўшчыны маскалёў і жыдоў. Сяньняшняя КП(б)Б зьменшала на 50 прац., ды і ў гэтай лічбе толькі якіх 15—20 прац. элемэнту беларускага.

Той-жа самы вялікамаскоўскі імпэрыялізм выяўляецца ў чырвонамаскоўскай дзейнасьці і ў Зах. Беларусі. Адно толькі, ня могучы тут тасаваць таго сацыялістычнага дабрадзейства, якое тасуецца ва Усх. Беларусі, чырвоная Масква заспакойвае свае апэтыты іншым спосабам.

Не пакінуўшы яшчэ да сяньня надзеі, што Зах. Беларусь раней

(Працяг на 2 ой стар.).

---

**25 сакавіка 1934 г. ва Усх. Беларусі ў няроўнай барацьбе за вольную Беларусь трагічна зьгінулі ад куляў чырвонамаскоўскіх тыранаў наступныя сябры Беларускае Нацыяналістычнае Грамады, дзеці беларускай вёскі:**

1. Пётра Данісевіч (мян. „Кастыль“) — Старшыня Слуцкае Сябрыны Б.Н.Г.
2. Пётра Махнач (мян. „Малы“) — Намесьнік Слуцкае Сябрыны Б.Н.Г.
3. Зоська Івапчык (мян. „Дымок“)
4. Мікола Івапчык (мян. „Жаўняровіч“)
5. Кузьма Галушка (мян. „Чоська)
6. Сьцяпан Панукевіч (мян. „Паддубны“)

**Верным сынам і байцом вольнае Беларусі — вечная слава й спамін!**

*Беларуская Нацыяналістычная Сябрына.*

---

## 25 сакавіка ва Усх. Беларусі.

Беларуская Нацыяналістычная Грамада яшчэ на некалькі дзён перад 25 сакавіком распашырала па ўсёй Усх. Беларусі адпаведныя адозвы, а таксама вяла і адумысную акцыю, заклікаючы беларускае грамадзянства да ладжаньня сьвяткаваньняў з нагоды 16-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. У ноч з 24 на 25 сакавіка ў шмат якіх мясцовасьцях былі павывешываны бел-чырвона-белыя сьцягі і параскіданы процімаскоўскія, белнацыяналістычныя адозвы. У самы дзень 25 сакавіка шмат дзе адбыліся закансьпіраваныя акадэміі. Некаторыя з іх, дзякуючы канфідэнцкім даносам, былі выкрыты агентамі ГПУ (падслуцкія лясы, Менск), у выніку чаго адбыліся масавыя арышты, а нават і расстрэлы. Адна з вайсковых частак, адмовіўшаяся страляць у выкрытых маніфэстантаў, быццам у той-жа самы дзень была перакінута ў глыб Маскоўшчыны. Характарна тут тое, што чырвонамаскоўскія камісары ўсе гэныя факты ня толькі скрываюць перад сьветам, але і адзін перад другім, баючыся быць асуджанымі ў прыхільнасьці да нацдэмаўшчыны, ці ў недахопе камуністычнай пільнасьці. Прамоўчываюць і таму, каб не пашыраць уплываў Бел. Нац. Грамады.

# Агляд прэсы.

„Novaja Varta". Časopiś Biel. Studensk. Korporacyi „Scorinia", Sakavik 1934 h., № 3.

Успомненая Карпарацыя, яшчэ нядаўна заложаная, мае за заданьне ўзгадоўваць бел. студэнск. моладзь у духу паразуменьня з польскім народам. Карпарацыя гэная атрымлівае ад дзяржавы праз беларуска-палянафільскія ўстановы сталыя дапамогі, з каторых утрымліваюцца яе незаможныя сябры і час ад часу выдаецца ўспомненая часопісь. Беларуска-польскае паразуменьне Карпарацыя прапагуе тым спосабам, што на старонках гэтае часопісі імкнецца здыскрэдытаваць усіх тых, хто працуе незалежна ад гэтага ці нагул і іншага паразуменьня. Выходзіць гэта, рэч зразумелая, вельмі непаважна. Напрыклад, адносна нас „N. V." піша гэтак: „...трэба было-б яшчэ ўспомніць Сарокаву газэціну „Беларусь Працы". Яна зьявілася нядаўна, але заняла вельмі шкодную лінію. Яна называе сябе „нацыяналістычнай" і распальвае полымя беларускага нацыяналізму, каб справакаваць гэты здаровы рух у самым зародку, бо-ж ня ў імя беларускага нацыяналізму, а ў імя чагось другога прамаўляе гэта газэціна да беларускага грамадзянства".

Ставім „Nov. Var." некалькі запытаньняў.

1. Нашая лінія палягае на тым, што, баручы пад увагу захопніцкія апэтыты літоўскага, маскоўскага, польскага і ўкраінскага імпэрыялізмаў, мы клічам беларускі народ да падняцьця сваей нацыянальна-культурнай сьведамасьці і адпорнасьці, накіроўваем яго на грунт рэальна-пазытыўнае вызвольнае працы, зашчэпліваем яму пачуцьцё непадзельнасьці нацыі і неабходнасьці яе вызваленьня і самастойнасьці, клічам народ да пасіленьня аднафронтнасьці і здысцыплінаванасьці, пасіленьня тэмпаў плянамернае вызвольнае працы, урэшце ганьбуем безкарыснае і пазорнае нічоганяробленьне ды гандаль беларускай справай на рынках Бэрліна, Варшавы, Коўны, Львова, Масквы і г. д., — вось-жа, няўжо ўсё гэтае для нас, беларусаў, шкодная лінія? Што шкодная яна нашым ворагам, мы гэта ведаем, але чаму шкодная яна нашаму вызваленьню?

2. Няўжо нашы поклічы да падняцьця нацыянальнае годнасьці і амбіцыі, няўжо нашае прышчэпліваньне сьведамасьці неабходнасьці лучэньня беларускіх сілаў на грунце пазытыўна-вызвольнае працы, сьведамасьці таго, што Беларусь належыцца беларусу, што ён, як і іншыя народы, мае права быць самастойным гаспадаром у сваей хаце, — вось-жа няўжо беларуская моладзь, кахаючая сваю незалежнасьць, можа ўсё гэта называць распальваньнем полымя беларускага нацыяналізму?

3. Няўжо праца т. зв. беларускае санацыі, зводзячаяся да запрадаваньня беларуска-вызвольнае справы да ўводжаньня ў рады грамадзянства дэструкцыі ды, урэшце, яе вечныя грызьні на грунце падзелу вытаргаваных дапамогаў, няўжо прапаведываньне запрадажніцтва імпэрыялізмам літоўскаму і маскоўскаму, сьведамае заганяньне сялянства й моладзі ў вастрогі, няўжо кулачна-хмельныя расправы ў імя сваей „ідэі", бязьдзейны маразм і вэгэтацыя большае часьціны нашае інтэлігэнцыі, — вось-жа, няўжо ўсё гэта здаровы рух? Для нашых ворагаў гэны „здаровы рух" патрэбны і таму яны здаровасьць яго прапаведуюць, але ці-ж можам шчыра мы гэта казаць?

4. Калі ня ў імя бел. нацыяналізму прамаўляе нашая газэта, то ў чыё імя? Ці-ж чэсны грамадзянін мае права ведаць шкоднасьць нейкае работы і ня выказаць гэтага на фактах грамадзянству, каб усьцерагчы яго перад небясьпекай? Пашто-ж тады гэтыя недасказы-сакрэты?!

Канчаючы, мусім адно сьцьвердзіць, што орган Карпарацыі неналежна зразумеў сваё назначэньне, або ня мае адвагі яго рэалізаваць. Беларуска-польскае паразуменьне трэба прапаведываць не выступленьнямі, у тоне паліцыйна-дэнунцыятарскіх даносаў, але шляхам шчырага й адважнага выказываньня ўсяго таго, што беларусаў з народам польскім можа лучыць пад паглядам гістарычна-геаграфічным, культурным, эканамічна-гаспадарчым і палітычным. Пры гэткай пастаноўцы справы можна сапраўды зрабіць нешта карыснае, бо ў іншым выпадку моладзь Карпарацыі адыйграе толькі вельмі няпрыгожую ролю, не гаворачы ўжо аб тым, што сама паказальна сьцьвердзіць нярэальнасьць свайго назначэньня.

—.—

„Беларуская Крыніца" № 18 з дня 22. IV. 34 г.

Кожнае „фільства" выплывае з жаданьня людзей, каб шляхам згоднага паразуменьня вырашыць узаемна-нацыянальныя адносіны. Калі гэта робіцца з наліччам чэснасьці і ўласнае амбіцыі, то бязумоўна, для такога паразуменьня хоць мінімальныя карысьці, але здабываюцца. Калі-ж „фільства" пераходзіць граніцы свайго фільства, губляючы ўласную амбіцыю і свой нацыянальны воблік, то маем тады дачыненьне з т. зв. палітычна-нацыянальным шабэсгойствам, якое для справы ўспомненага паразуменьня нічога ня прыносіць, адно—заспакайвае патрэбы самых толькі шабэсгояў.

Для нікога ня было таямніцай, што „Бел. Крын." была ўралітвафільскім органам. Аднак, яе апошнія выступленьні і асабліва апошняя яе перадавіца пад назовам: „Гутаркі аб Вільні і беларусы",

## Рост бел. прав духавенства.

Сёлета канчаюць Студыюм Прав. Тэалёгіі 8 беларусаў. З Віленскай Эпархіі паходзяць: Сьв. Нікіфар Пыск, сьв. Іван Кушнер, студ. Мікола Лапіцкі, студ. Арсень Верабей, студ. Аўген Баслык, студ. Уладзімір Шостак і студ. Міхал Сеўба. З Горадзенскае Эпархіі паходзіць сьв. Мікола Няслухоўскі.

Адначасна з гэтым давядываемся, што прабываючы ў Львове беларус-манах а. Нарко атрымаў сан архімандрыта. Архім. Нарко зьяўляецца сынам беларускае вёскі Віленшчыны, скончыў сэмінарыю ў Вільні, затым Студыюм Тэалёгіі ў Варшаве. Некалькі гадоў студ'яваў і ў Грэцыі, скуль яшчэ нядаўна вярнуўся.

## Трывога расейскае эміграцыі.

Апошнімі часамі расейская эміграцкая прэса (Францыя, Баўгарыя, Чэхаславаччына), штораз часьцей пачынае біць трывогу ў справе нацыянальна - вызвольнае барацьбы беларусаў і ўкраінцаў, якія знаходзяцца пад ботам чырвонае Масквы. У сувязі з ростам успомненае нацыянальна-вызвольнае барацьбы, а таксама — з ростам чырвонамаскоўскага імпэрыялістычнага тэрору над украінцамі і беларусамі, расейскія эміграцкія палітыкі ня толькі апраўдываюць перад сьветам сяньняшнюю крывавую палітыку чырвоных цароў, але зусім цынічна заклікаюць іх да яшчэ больш рашучых крокаў, а гэта з увагі на абавязак утрыманьня пры Маскве Беларусі і Украіны. Паводле ўспомненых палітыкаў гэныя дзьве краіны знаходзяцца сяньня на пярэдадні здабыцьця сваей акончальнай незалежнасьці, што калі-б ім удалося зрабіць, то сяньняшнія чырвоныя цары „будуць ганебна засуджаны і расейскай гісторыяй і III Інтэрнацыяналам, бо адарваньне ад Расеі Беларусі і Украіны будзе сьмяротным ударам ня толькі для Вялікай Расеі, але і для ўсяго камунізму".

---

сягу палітыкі і дзейнасьці Полацку, аб чым гавораць навуковыя досьледы і архэолёгічныя раскопы. У гэты час межы Беларусі сягаюць пад Пскоў, раку Волгу, за Прыпяць, Сувалкі і за Вільню, а межы ўплываў яшчэ далей, адыгрываючы дамінуючую ролю сярод Усх. славянаў. Таксама ў гэты час, шырэйшаму сьвету мала яшчэ знаныя і нізка-культурныя літоўскія плямёны займаюць толькі лясіста-балоцістую Жмудзь і ўзьбярэжжы Балтыку. У хуткім часе гэныя плямёны пачынаюць эміграваць на Усход — на бязьмежныя прасторы Беларусі, што тлумачыцца некалькімі прычынамі. Пацягае іх да сябе вышэйшая беларуская культура, вялічэзныя і не балоцістыя прасторы, а з другога боку гэнай эміграцыі спрычыняюцца цесната і балоты літоўскіх зямель, і вось у сувязі з гэтым—вечныя міжпляменныя літоўскія бойкі. Праз некалькі вякоў пазьней гэны рух міграцыйны па сіліваецца, а гэта ў сувязі з напорам на літвіноў спачатку нямецкіх наездаў, а потым лівонцаў і крыжакоў. Адпору з боку беларускага літвіны не сустракаюць, бо руйнуючыя дынастычныя бойкі вялікшых беларускіх князёў прымушаюць слабейшых з іх (якраз з Горадзеншчыны і Віленшчыны) шукаць сабе саюзьнікаў звонку і пры помачы іх асэкураваццa ад наступаў нутраных. Менш-больш у гэтым часе выкрысталізоўваецца ў Літве ўлада адзінага князя, які памалу падпарадкавае сабе і перасвараных князёў беларускіх, прыняўшых на свае землі літоўскія міграцыі. Астаюцца яны на сваіх пасадах і пазьней, аднак зьяўляюцца ўжо судзельнікамі новае дзяржавы, створанае са Жмудзі ды беларускіх Віленшчыны ды часткі Горадзеншчыны, на чале якой стаіць вялікі князь. Апошнія раскопкі на Бэкешавай гары ў Вільні і па Віленшчыне выказываюць, што ў XII ст. беларусы жывуць тут і надалей суцэльнай масай. Вось-жа дзеля таго, што стары беларускі гарадок Вільня ў новай дзяржаве стаўся якраз яе натуральным адміністрацыйным цэнтрам, што беларусы ў ёй, гэнай дзяржаве, фактычна адыгрывалі абсалютна рашаючую ролю, Гэдымін быў прымушаны сваё вяліка-княжаскае седзішча — дзяржаўную разыдэнцыю — перанесьці ў беларускую Вільню. Тады вось і закладаецца тут з гэнае прычыны вялікакняжы замак. Дзеля розных палітычна-дыплёматычных вырахункаў гэты крок абасноўваецца наказам сілаў вышэйшых (прыёмы такія тады модныя) — байкай аб жалезным ваўку.

Наколькі дэцыдуючым было значэньне элемэнту беларускага ў новай дзяржаве сьведчаць наступныя факты. Гэдымін тытулуецца каралём Беларусаў і Літвіноў. Яго сыны: праваслаўны (бо беларусы былі праваслаўнымі) Альгерд займае вялікакняжы пасад у Вільні (!), а паганец Кейстут — Трокі і гэтак адначасна кіруюць дзяржавай. Беларуская мова стаецца дзяржаўнай, а культура пануючай. Ягайла, ня хочучы йсьці сьлядамі ўспомненай двуўлады, траціць падтрыманьне беларусаў, выклікае сярод іх незадаваленьне і вось, чуючыся адзінокім у барацьбе з крыжакамі —лучыцца з Польшчай. Вітаўт здабывае вялікакняжы пасад толькі дзякуючы беларусам, прыняўшы ў час іх веру. Праўда, здабыўшы гэны пасад, ён гвалтам літоўшчыць беларускія землі, шырака каланізуе іх літоўскімі асаднікамі, вынішчывае беларускіх князёў, аднак праглынуць беларусаў ня змог, страціў іх прыхільнасьць і быў прымушаны абаперціся на Ягайлу. Беларуская мова пануе і надалей, і ў штодзенным і ў дзяржаўным жыцьці, на беларускай мове выходзяць кодэксы правоў, з беларусаў складаюцца вышэйшыя ўрадоўцы дзяржавы, а ўсё гэта сьведчыць аб усьцяж яшчэ дамінуючай ролі беларускага элемэнту ў дзяржаве. І толькі ў 1697 годзе беларуская мова была адменена, а на яе мейсца ўведзена мова польская, але ніколі літоўская. Аднак, беларускі воблік Зах. Беларусі ператрываў і да нашых дзён.

Вось гэткія правы дае гісторыя Літве на Зах. Беларусь. Гэтулькі-ж сама правоў дае Літве і стан фактычны.

Успомнены вышэй праф. Пакштас сьцьвярджае там жа, што ў агавораваным ім краю пражывае паўмільёна т. зв. „тутэйшых", якія ня лічаць сябе літвінамі, і блізу адзін мільён беларусаў, што насельніцтва ў гэтым краю ў 60% гаворыць пабеларуску. Паводле праф. Пакштаса выходзіць, што на мільён 700 тыс. насельніцтва Віленшчыны, паўтара мільёна прыпадае на «тутэйшых» і беларусаў, а рэшта, г. зн. 200 тыс. прыпадае на палякоў, літвіноў, жыдоў і інш. Другі прыклад: «Vilniaus Rytojus» (№ 31 з дн. 14. III. 34 г.), палемізуючы з „Kurjer Wil." у справе колькасьці літвіноў пад Польшчай, піша, што паказаньні апошняга перапісу, быццам літвіноў у Польшчы ёсьць 92-95 тысячаў, зьяўляюцца, з увагі на спосаб вядзеньня гэтага перапісу, неправідловымі. Паводле „Vil. Ryt.", „раззажаючы безстаронна вышэй прыведзеную лічбу насельніцтва літоўскага (92-95 тыс.) трэба было-бы *патроіць* (падкр. „Vil. Ryt.)". Як бачым, нават паводле найлепшых інтэнцыяў «Vil. Ryt.» у Польшчы жыве нейкіх 300 тыс. літвіноў. Перапіс быў ведзены аднолькава і ў беларускай і ў літоўскай хаце, ня лічучы ўжо тут большае сьведамасьці гэнай апошняй. І вось, гэты самы перапіс выказаў, што беларусаў ёсьць паўтара мільёна. Бязумоўна, лічба гэная таксама неправідловая, але мы яе ня будзем патроіваць і прымем за правідловую. То і ў гэтым выпадку выходзіць, што на „ісконі" літоўскіх землях, у тэй славутнай „акупаванай" Літве пражывае літвіноў толькі 300 тыс., паводле іх-жа ўласных, патроеных аблічэньняў, у той час як беларусаў уваднэй Віленшчыне, паводле тых-жа літоўскіх аблічэньняў, пражывае мільён, а ў Зах. Беларусі, паводле непатроенага перапісу — паўтара мільёна.

Бачым, што літоўскія прэтэнсіі на „акупаваную" Літву ня маюць падставаў ані гістарычных, ані тымбольш з стану фактычнага. «Акупаваная» Літва — гэта землі спрадвеку беларускія, на якіх як калісь, так і цяпер жыве суцэльнай масай беларуская стыхія, ня лічачы тых ледзь відавочных літоўскіх вастраўкоў, якія зьяўляюцца сяньня ўжо выміраючымі рэшткамі колішняй літоўскай калянізацыі.

І вось, ня гледзячы на ўсё гэта, літоўскі імпэрыялізм ня лічыцца ані з гістарычнай праўдай, ані з рэчаістасьцю. Сваёй манлівай акцыяй сярод замежных дзяржаў, здабывае ён іх прызнаньне на слушнасьць сваей барацьбы за «акупаваную» Літву. Нашым абавязкам выкрыць гэную ману перад сьветам. Беларуская навука, прэса і арганізацыі павінны правесьці акцыю выяўленьня сапраўднасьці. Бо могуць прыйсьці мамэнты гістарычныя, калі, дзякуючы сваей сяньняшняй мляўкасьці, будзем змушаны перажыць яшчэ адзін перарэз беларускага цела і гэны факт будзе апраўданы перад сьветам. Вось-жа, покуль яшчэ незапозна мусім неадкладна літоўскаму хіжацтву даць рашучы адпор. Патрэба яго вычуваецца асабліва сяньня, калі распачаты польска-літоўскі флірт пераходзіць у сужыцьцё, якое можа быць і замацавана якраз коштам беларускіх зямель. Гэнаму сьвядомаму працэсу безканечнага драбленьня беларускіх зямель, гэнай новай гістарычнай несправядлівасьці мы павінны рашуча супрацьставіцца.

